# НЯЗВЕДАНЫЯ СКАРБЫ

Калі ўчытацца ў аб'ёмісты том „Выслоўі“, што ў канцы мінулага года выйшаў у многатамовым зборы „Беларуская народная творчасць“, які сістэматычна рэалізуе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, то перш за ўсё ўражвае натуральная ўласцівасць беларускага народа выказваць свае думкі ў вобразах. Кожны з гэтых амаль 10 тысяч твораў — параўнанняў, устойлівых выразаў, жартаў, тостаў, прыгаворак за сталом, вітанняў, зычэнняў, прысяганняў, праклёнаў, дражнілак ці абзыванняў, што складаюць змест кнігі, якраз і ёсць каларыстычнымі абразкамі самых разнастайных з'яваў у штодзённым жыцці беларуса. Бо і дзе вы, як не ў нашым народзе, пачуеце такое. „Або табе хлеб, а мне каўбасу, або мне каўбасу, а табе хлеб“ як абразок несправядлівага падзелу, ці пажадання пры рошчыне хлеба: „Багаты на ўчын“, або праклёну: „Дзівішся, каб на цябе гола дзівіліся!“.

Склаў, сістэматызаваў і пракаменціраваў гэты „асобны велізарны пласт народнай словатворчай культуры“ заслужаны ветэран беларускай гуманістыкі М. Я. Грынблат. Ва ўступным артыкуле ён не толькі даў грунтоўны нарыс па гісторыі збірання беларускіх народных выслоўяў, але таксама навукова прааналізаваў усе іх віды, ствараючы такім чынам найбольш поўную, як дагэтуль, характарыстыку гэтай, мала даследаванай формы вуснай народнай творчасці. Каментарыі-тлумачэнні цэлых выслоўяў ці паасобных слоў таксама прадстаўляюць сабой вартасны даведнік па гісторыі народнай матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў. Нас, жыхароў Беласточчыны, вельмі цешыць і тое, што ў гэтае выданне трапілі выслоўі, сабраныя ў нашым рэгіёне не толькі да другой сусветнай вайны, але таксама і тыя, якія былі надрукаваны ў „Ніве“, перш за ўсё нашым журналістам М. Шаховічам і навуковым супрацоўнікам Варшаўскага універсітэта Я. Леанчуком.

„Устойлівыя народныя выслоўі, толькі частка якіх змешчана ў гэтым томе, сведчаць, што народная крыніца тоіць у сабе нязмерныя і да канца нязведаныя скарбы слова, вобразаў, паэзіі, — сцвярджае М. Я. Грынблат і дадае: — Яны даюць адчуць таксама, якая трапная і прыгожая беларуская мова, як народ умее адабраць слова, каб яно зайграла патрэбнай гранню адпаведна свайму эмацыянальнаму настрою“. (мг)

**Выслоўі,** АН БССР, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Мінск 1979, стар. 520, цана 44 зл.

# ПАКЛОННІК НАРОДНАГА І РЭНЕСАНСА

**(Працяг са стар. 2)**

Мне здаецца, што да найбольш удалых і паказальных належала выстаўка прац разбяра па дрэву А. Пупко з Івянца. Арыгінальнасць яго ў тым, што ён у сваёй творчасці захаваў найбольш традыцыйныя формы і сюжэты беларускай народнай разьбы. Цікавая была выстаўка двух тварцоў: разбяра-анімаліста В. Альшэўскага і жывапісца-прымітывіста І. Дудо. Калі першы з іх робіць надзвычай цікавыя сялянскія абразкі, як напрыклад „Сенакос“, то другі — перадае вельмі трапна нацыянальныя якасці беларускага характару: скромнасць, стрыманасць, пачуццёвасць. З надзвычай вялікім зацікаўленнем у асяроддзі мастакоў і звычайных любіцеляў мастацтва сустрэлася вялікая выстаўка беларускіх народных маляваных дываноў. Гэта было праўдзівае адкрыццё амаль зусім невядомага для мастацтвазнаўцаў віду народнай творчасці на Беларусі. Пераважна гэта былі работы народных мастачак Л. Ючковіч з Глыбоччыны і А. Кіш са Случчыны.

— А якія планы ў гэтай дзялянцы на бліжэйшую будучыню?

— Як мага найхутчэй і найлепш зрабіць выстаўку народных дываноў, інкруставаных саломкай. Мяркуем, што гэта будзе такое самае адкрыццё, як маляваныя дываны. Затым трэба арганізаваць выстаўку народнай керамікі. Беларусь — гэта ж краіна вельмі таленавітых ганчароў. Адзін Івянец ды Пружаншчына чаго варты! Ну, і, вядома, нельга не паказаць шырокаму грамадству багацейшыя зборы цудоўнейшых вырабаў нашых народных майстроў з саломы: інкрустацыі, пляцення, фігурных кампазіцый і іншых форм. Словам, планы ў нас вялікія, бо і багацце творчасці нашых умельцаў велізарнае.

І тут некалькі слоў пра майго размоўцу, хоць ён вельмі не любіць гаварыць пра сябе. Я. Кулік — радавіты мінчанін і выхаванак Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Закончыў ён у 1963 г. аддзяленне жывапісу, але займаецца графікай. Шматгадовы супрацоўнік дзіцячага часопіса „Бярозка“. Многа ўвагі прысвяціў ілюстраванню і афармленню кніг, перш за ўсё выданняў для дзяцей. За найбольш удалыя лічыць графіку да „Мушкі-зелянушкі і камарыка — насатага тварыка“ М. Багдановіча, беларускай народнай казкі „Пшанічны каласок“, „Сонечнага клубочка“ В. Зуёнка. Зрабіў ён цікавую вялікую серыю лінарытаў „Старажытнае дойлідства Беларусі“ і шэраг іншых прац.

— Цяпер жа працую над аздобным мастацкім выданнем славутай „Песні пра зубра“ Міколы Гусоўскага, — ажывіўся ён. — Ведаеце, гэта ж адна з найкаштоўнейшых жамчужын беларускага Рэнесанса! У 1980 годзе згодна з рашэннем ЮНЭСКа ўвесь свет будзе адзначаць 500-годдзе нараджэння гэтага выдатнага лацінскага паэта Беларусі. Гэта ён, Мікола Гусоўскі, уславіў яшчэ ў XVI стагоддзі красу беларускай зямлі па ўсёй тадышняй Еўропе. Выданне выйдзе на трох мовах: лацінскай, беларускай і рускай.

Што ж, апрача пажаданняў адкрыцця новых народных талентаў і асабістага задавальнення з працы над „Песняй пра зубра“, я мог сказаць на развітанне Яўгену Сяргеевічу Куліку?..

**Мікалай Гайдук**



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79

*Тэрцэт з Ляўкова: Вера Осяк, Вера Сват і Валянціна Грыка.*
*Фота Я. Целушэцкага.*

**(Працяг са стар. 1)**

# Карэспандэнт ГОДА

дыскусія, водгукі на гэтыя публікацыі з боку чытачоў. Гэта відаць па „Адгалосках“. Іх мы апублікавалі ў 1979 годзе 50. Гэтую форму будзем развіваць. Просім чытачоў, калі што ў „Ніве“ вас абрадуе або засмуціць, або ведаеце больш на тую тэму, ці ведаеце інакш, — накіньце нам некалькі слоў, а па меры магчымасці і некалькі сказаў — апублікуем, а не — то хоць пагаворым у лістах. Гэта будзе наша з вамі дасканалая сямейная перапіска і паможа яна нам рабіць „Ніву“ цікавейшай. А „Трыбуна чытачоў“, або, як часта пішаце, „Сёмая старонка“ у асобе ніжэй падпісанага яе рэдактара прыняла на Новы год абавязацельства: ніводнага лісту, нават найменшага, не пакінуць без адказу.

І яшчэ адна справа. У некаторых нашых карэспандэнтаў, што сумнейшае — у тых найбольш надзейных, здавалася б, паяўляецца... як бы гэта назваць... неахвота ў далейшым пісаць. Нейкая — ці змучанасць, ці нервовасць, а мо што іншае? Мілыя! „Ніва“ ніколі не казала і не скажа, што яе карэспандэнтам жыццё будзе лягчэйшым і весялейшым. Але казала і казаць будзе, што жыццё яе карэспандэнтаў будзе багацейшае і больш дастойнае! Калі ты прысеў і напісаў у „Ніву“, ты глянуў шырэй на свет. І яшчэ адно — у адказ усумніўшымся: „Ніва“ не прымае дымісіі з абавязку карэспандэнта! Крызісы ў нашым асабістым жыцці — нармальная рэч. Але яны прамінаюць, як і ўсё іншае. А з крызісаў выходзім новымі і лепшымі істотамі.

Няхай жыве ніваўская карэспандэнцкая грамада!

**Вера Леўчук**

М. ШАХОВІЧ

# З народных ГАВОРАК

**вал** — штучны земляны ўзгорак. А мы давай валом пуойдэмо. Такіе дожджы былі, што аж вал зрушыло. Наша лонка туолькі до валу.

**вэртэпы** — вялікія калдобіны. Дорога такая вэртэпіста, што куонь готов ногі поломаті. Сніегу намэло і такіе вэртэпы на дорозі поробіліся, што аж страх. Вэсною пойедэмо, а то тэпэр одны вэртэпы.

**застуваті** — засланяць святло. Одыді од окна, а то застуеш. Нэ застуй, а то стаў, як свіэчка.

**літкуп** — барыш. Давай тысячу і твой літкуп. Пасля ўчарашняга літкупу галава баліць.

**прытном** — падрад. Нэ рыйся, як порося, а прытном бэры. Йеш прытном, а нэ одно мясо выбіраеш.

*(Сакі, гміна Бельск)*

# ПАКЛОН НЕАБЫЯКАВЫ

**(Працяг са стар. 3)**

стаў на заводзе. Кожны з іх падказваў, што ведаў. Людзі аставаліся ў фарбавальным цэху пасля сваёй змены. І асстаткова знайшлі мы спосаб на віпалан. Цяпер ад сяржанаўцаў тэхналогію афарбоўкі гэтай сыравіны пераймаюць іншыя тэкстыльныя прадпрыемствы, цікавяцца ёю за мяжой.

✼

**Мар'ян Качынскі** прайшоў у Сяржана шлях ад ткача да кіраўніка нарыхтоўчага цэха. Ткацкая справа не мае для яго ніякіх тайнаў. Непакоіла яго даволі вялікая колькасць прадукцыйных адходаў. Іх можна выкінуць на сметнік, але можна і выкарыстаць, толькі трэба ведаць, як гэтыя адходы падрыхтаваць для далейшай перапрацоўкі. І зноў знайшліся людзі, якія дапамаглі яму апрацаваць метады выкарыстання гэтай раней непрыдатнай сыравіны.

✼

**Стэфанія Суховіч** — ветэран сяржанаўскага калектыву. Была сярод тых рабочых, якія ў адбудаванай фабрыцы пры вуліцы Влукеннічай у Беластоку выткалі яшчэ ў 1944 годзе першыя пасляваенныя метры сяржанаўскай тканіны.

— Я згодна з тым, што адходы трэба выкарыстоўваць, — кажа яна, — але яшчэ лепш, калі ў адходы ідзе як найменш высакаякаснай сыравіны. Возьмем для прыкладу намоткі на шпулях. Па тэхнічных прычынах іх немагчыма выкарыстаць да канца. Аднак тое, колькі нітак астанецца на шпулі, залежыць выключна ад добрасумленнасці рабочых, бо тут няма дакладных нормаў. Узнялі мы гэтую праблему на партыйным сходзе. Заахвоцілі іншых, і разгарнулася між іншым спаборніцтва за тое, хто найменш аставіць намоткаў. Найлепшай аказалася маладая работніца **Рэгіна Прыбіха.**

✼

**Язэп Смігельскі** — яшчэ зусім малады чалавек — кіруе ў „Сяржана“ цэхам. Каб не назойлівы, безупынны шум машын, праз які не прабіваецца людскі голас, можна было б у гэтым цэху цэлымі гадзінамі любавацца шматкаляровай пражай і ўзорыстымі тканінамі, якія выходзяць з-пад рук ткачых.

Майстар Язэп Смігельскі знаёміць мяне з брыгадзіршай **Валянцінай Аўгусціновіч.** Яе брыгада прыступіла да сацыялістычнага спаборніцтва працы за ганаровае званне:

**БРЫГАДА НАЙВЫШЭЙШАЙ ЯКАСЦІ ІМЯ VIII З'ЕЗДУ ПАРТЫІ.**

— Хто ў вашай брыгадзе? — крычу на вуха Валянціне Аўгусціновіч. Яна называе сваіх сяброўак: **Галіну Рачкоўскую, Генрыку Слядзінскую, Ірэну Казлоўскую і Луцыю Здановіч.**

— Мы даўно ўжо разам працуем і сябруем. Заўсёды стараліся даваць прадукцыю высакаякасную. Дак калі таварышы з партыйнага камітэта і маладзёжнай арганізацыі запрапанавалі нам прыступіць да гэтага спаборніцтва, мы не адмовіліся, ахвотна прынялі прапанову і маем надзею заваяваць гэтае ганаровае званне **„Брыгады найвышэйшай якасці імя VIII з'езду партыі“.**

✼

Валянціна Аўгусціновіч заявіла мне, што даўжэй гутарыць яна не можа, бо выключыла ткацкія станкі і работа стаіць... Мы хутка развіталіся, і я накіраваўся ў цыравальню. Тут ад 1945 года працуе **Анна Келч,** якая ўжо другі раз выбіралася намі паслом у Сейм ПНР.

— Нас тут звыш 30 жанчын, — гаворыць яна. — Палавіна з іх — члены партыі. Здарылася аднойчы, што адна наша работніца неяк пасварылася з майстрам. Прыходзіла і гаварыла, што майстар вінаваты, а ён звальваў віну на работніцу. Цягнулася гэта даволі доўга, а работа цярпела, не хапала нам той сардэчнай, сямейнай атмасферы, якая ўсім людзям аблягчае жыццё. Урэшце рашылі мы склікаць партыйную групу свайго цэха, папрасілі сакратара завадскога камітэта і пагутарылі, як кажуць, па душам, разгледзеўшы справу з усіх бакоў. І памагло. Работніца ў вачах майстра перастала быць найгоршай, а яна з большым даверам звярталася ўжо да свайго кіраўніка.

✼

Вось бачыце, нібы звычайныя, штодзённыя справы. Толькі гэтыя людзі, калі справу разглядаць фармальна, не былі абавязаны ўсё гэта рабіць. Маглі б спакойна хадзіць на працу і вяртацца дамоў, маглі б паўтараць, што іх хата з краю... І ніхто іх за гэта не пакараў бы.

Але тады не было б каляровага віпалана, прадукцыйныя адходы надалей вывозіліся б на звалку, паўнавартасныя ніткі выкідалі б разам са шпулькамі, маладыя ткачыхі не адчувалі б патрэбы спаборнічаць за высокую якасць прадукцыі, а людзі адзін на другога надалей бы бурчалі.

На шчасце, так не сталася, бо знайшліся людзі, якія не хацелі быць абыякавымі! І я веру ў тое, што яны ёсць усюды. Для іх мой нізкі паклон.

**Віктар Рудчык**




# ДЗІВАКІ — ГА, ГА, ГА!

Людзі гавораць, што смяецца той, хто смяецца апошнім. Добра ім так казаць, няхай бы апынуліся на маім месцы сярод дасканалых крытыкаў, тады б пабачылі, ці было б ім да смеху.

Напісаў я некалі для „Зоркі“ вершык „Казка пра Крата“. Дык вось там гаварылася, што Кроцік той быў надта лянівы і асцярожны. Баяўся мыцця, каб капелька вады выпадкова не пырснула яму ў вочы. Калі я гэты вершык прачытаў узрослым людзям, адзін прысутны адразу са знаўствам заявіў: „Якія ты глупоты дзецям выпісваеш. Ад калі, па-твойму, у крата ёсць вочы?

„Вось іменна, — падтрымаў яго чалавек з вышэйшай адукацыяй, — цікавая вынаходлівасць. Я колькі разоў бачыў крата, а ніколі не ўдалося мне заўважыць яго вачэй.“ „Бо ён іх не мае, — з насмешкай нада мной адазваўся першы. — Я, брат ты мой, з гаспадароў і цяпер маю дзялку, на якой кратоў хоць адбаўляй, а вачэй ані ў аднаго няма і ўсё!“

„Хлопцы, — адзываюся сканфужаны. — Гэта ж у пераносным сэнсе. А ці ж міска, ложка і ложак у нары крата ёсць?“

„Каша можа там быць, бо маці Кроціка магла недзе ўкрасці і нанасіць.“ „Ну, але краты не ядуць лыжкай з місак, — баранюся я“. „Мы не ведаем, што там у іх у норах ёсць. Але ты перастань дзецям марочыць галаву, што ў кратоў ёсць вочы!“

Гаспадар спрачаўся са мною, чалавек з вышэйшай адукацыяй хадзіў па пакоі, засунуўшы рукі ў кішэні, і паглядаў на мяне з іроніяй. А я замест смяяцца з іх, злаваў, што не ўдаецца мне іх пераканаць. Чаму яны, тлумачыў я сабе, не могуць зразумець, што я напісаў пра Кроціка, меўшы на думцы дзяцей гомасап'енса (чалавека разумнага), да якога належаць мае ўпартыя сябры і я сам, на жаль. Чаму, на жаль? А проста таму, што я чым больш пазнаю людзей, тым больш люблю звяроў.

**Васіль Петручук**



**У нашай метраполіі.** Гасцінны палацык у стылі барока на вуліцы Кілінскага ў Беластоку. Пабудаваны ў 1771 годзе паводле праекта Сянкоўскага. Сёння сядзіба Інстытута архітэктуры Беластоцкай палітэхнікі.

Фота М. Гайдука.

## НА КУЛЬТУРНАЙ НІВЕ

# У ГУРАНАХ

Вёска Гураны ў Крынкаўскай гміне мае ўмовы для культурнай дзейнасці. Ёсць тут вясковы Дом культуры. Размясціліся ў светлых пакоях тут бібліятэка з чытальняй, клуб прэсы і кніжкі, ёсць пакой для працы розных калектываў (у ім ёсць і сцэна). У пакоях густоўныя дэкарацыі, добрая мэбля, тэлевізар, магнітафон, настольныя гульні, а ў чытальні мноства часопісаў.

У гуранскім клубе „Рух“ дзейнічае дзіцячы тэатр, што дэбютаваў у пачатку 1973 года пастаноўкай п'есы С. Яновіча „Сынок“. Вядуць яго Галена Радэль (кіраўнік Дома культуры) і Леанарда Вярбіцкая (гаспадыня клуба „Рух“). У гуртку займаецца 15 асоб. У мінулым годзе выступіў ён з дзвюма пастаноўкамі. У сваім клубе і ў суседнім, у Крынках. З розных нагод: Дня дзіцяці, Дня маці і Дня настаўніка. Карысталіся яны належным поспехам. У бягучым годзе ў іх новыя пастаноўкі, новыя пошукі і здзяйсненні.

Не малым зацікаўленнем дзяцей з Гуранаў і наваколля карыстаюцца заняткі ў гуртку юных мастакоў. У клубе часта паяўляюцца выстаўкі іх работ.

У клубе моладзь стварыла джазавы аркестр. Інструменты купілі за грашовыя ўзнагароды, прызнаныя гуранскаму Дому культуры.

У Доме культуры адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі. Пабывалі тут: пісьменнік А. Амільяновіч, навуковы работнік з інстытута млекакормячых Польскай акадэміі навук др Л. Альшэўскі, знаўца гісторыі і культуры польскіх татараў М. Канапацкі, акцёр беластоцкага лялечнага тэатра Т. Бжэзінскі, журналісты „Нівы“. Незабыўнымі ўспамінамі з'яўляюцца вечарыны „Песні даўнія і забытыя“, у якіх, удзельнічаюць найлепшыя старэйшыя спявачкі.

З даволі багатай бібліятэкі карыстае перш за ўсё школьная моладзь. Кніга тут трывала замацавалася. Тут чытаюць пераважна ваенную літаратуру і класікаў польскай, рускай і заходніх літаратур.

**(яц)**

## Ці ведаеце, што...

... у Міхалоўскай гміне на працягу двух апошніх гадоў прыбыло 50 спецыялістычных гаспадарак (цяпер іх усіх 71), сярод іх 47 спецыялізуецца ў гадоўлі малочных кароў.

# Купляйце „Беларускі каляндар”!

**Як мы ўжо паведамлялі, выйшаў з друку „Беларускі каляндар“ на 1980 год. Налічвае 132 старонкі і каштуе 20 зл. Купіць яго можна ў ГП БГКТ, у нашай рэдакцыі, у клубах БГКТ, а таксама ў ліцэях і школах, дзе навучаецца беларуская мова. Каляндар можна таксама выпісваць за паштовым залічэннем. У гэтым выпадку пішыце па адрасу: Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.**

## БУГ У АГНІ




Напамінаю: **Яну Семенюку** ў 1941 годзе было 17 гадоў.

Ян Семянюк гаворыць няспешна, быццам бы шукаў у памяці зацёртыя праз час малюнкі тых дзён, якія перажыў у Слохах разам з аднавяскоўцамі і воінамі Савецкай Арміі.

— Яшчэ як яны тут бараніліся! — паўтарае. — Немцы сядзелі ўжо на бункеры, а яны не здаваліся. Крычалі ім: *„Рус, здавайся!“* А „рус“ страчыць з кулямёта і адказвае: *„А нам ещё три года здесь воевать!“*

Дот, пра які расказвае Ян Семянюк, знаходзіцца зараз за вёскай з левага боку шашы, калі ехаць ад Драгічына праз Слохі ў Сямяцічы. Цяпер ён зарос ужо лесам, а тады, у чэрвені 1941 года, пад яго абстрэлам знаходзілася гэтая важная дарога. З успамінаў Івана Нікалаевіча Шыбакова, які прыводзіць усе кодавыя назвы гэтых дотаў, вынікае, што гэтаму доўгатэрміноваму абароннаму пункту была прысвоена клічка **„Безымянный“**, што камандаваў ім маладзенькі лейтэнант, які толькі напярэдадні вайны паспеў прыехаць у Слохі з ваеннага вучылішча. Можа гэта той самы, які спыніўся на кватэры ў бацькоў Яна Семенюка?

— А хто яго ведае, — гаворыць солтыс. — Не паспелі мы з ім пазнаёміцца. Затое я добра памятаю іншага савецкага афіцэра, таго, які жыў у суседа, **лейтэнанта Сізонава.** Часта дапамагаў я вучыць яму яго сабаку...

Лейтэнант **Сізонаў...** Так яго прозвішча запамятаў Ян Семянюк. У сапраўднасці быў гэта **малодшы лейтэнант І. М. Сазонаў.** Так яго называе Іван Шыбакоў. Сазонаў камандаваў дотам „Пчолка“, які размяшчаўся па-суседску з дотам „Безымянный“ — у адной лініі, на загуменнях вёскі Слохі.

У вёсцы былі немцы, а гарнізоны дотаў „Пчолка“ пад камандаваннем малодшага лейтэнанта І. М. Сазонава і яго суседа з дота „Безымянный“ заўзята бараніліся.

— У дот, дзе засеў гэты Сізонаў, — расказвае Ян Семянюк, — схаваліся таксама розныя афіцэры і палітрукі з суседніх вёсак, з Крупіц і Клекатова, дзе не было такіх абаронных пунктаў.

Кончылася харчаванне. Лейтэнант Сазонаў выбраўся ў вёску, да сваіх знаёмых. Ведаў, што яму не адмовяць.

— Цэлая наша вёска ім дапамагала, — кажа цяперашні солтыс Слохаў Анапольскіх. — Гэтыя бункеры не былі яшчэ як след падрыхтаваныя да абароны. Пры іх ляжалі горбы камення і будаўнічых матэрыялаў. Яны засланялі сектары абстрэлаў. Супольна адвальвалі мы гэтыя камяні і ежу ім насілі. Памятаю, што бацька адрэзаў кусок сала і даў бохан хлеба, а я паімчаўся з усім гэтым якраз у бункер, дзе знаходзіўся лейтэнант Сізонаў.

Лейтэнант Сазонаў вяртаўся ўжо з вёскі. Ішоў праз густое, каласістае жы-

(Працяг на стар. 6)

## ФАКТЫ І ЛІЧБЫ

У Беластоку пражывае звыш 211 тысяч людзей. У 1980 годзе колькасць жыхароў наблізіцца да 230 тысяч. Ад гэтага года прыбыванне насельніцтва горада дасягне 35 тысяч на кожную пяцігодку, такім чынам у 1985 годзе беластоцкія гараджане разрастуцца да 265 тысяч, а ў 1990 — да 299 100 асоб. Прадбачваецца, што тое прыбыванне наступіць галоўным чынам у выніку міграцыі людзей з вёскі.

*

У Гайнаўцы дзейнічае шэсць клубаў ганаровых донараў, у якіх згуртавалася 398 асоб. Колькасць ганаровых донараў з кожным годам расце і павялічваюцца рэсурсы банку крыві. У 1978 годзе аддалі яны 289 літраў і ў 1979 годзе — 300 літраў.

Найбольш актыўныя клубы дзейнічаюць пры ГППД, Раёне „Лес“, Гайнаўскім прадпрыемстве лясных машын і Гайнаўскім прадпрыемстве сухой дыстыляцыі драўніны. Да найлепш працуючых школьных клубаў ГДК належаць клубы пры прафесіянальных школах і добраахвотным гуфцы працы ў Гайнаўцы. **(яц)**

# ПГР У КРЫНКАХ

На працягу двух апошніх гадоў у Крынкаўскай гміне хлебаробы перадалі ў замену за пенсіі 67 гаспадарак агульнай плошчай 358 гектараў. Зараз ПФЗ налічвае 1562 гектары зямельных угоддзяў (на канец 1978 года было 1652 га ПФЗ). У фонд зямлі прыбываюць наогул слабыя землі. Неабходна было арганізаваць ПГР. Заснаваўся ён ужо шэсць гадоў назад і дынамічна развіваецца. Мае ва ўладанні звыш 6300 гектараў, у тым ліку сельскагаспадарчых угоддзяў 4144 га. Поле рэкультывавана. Каля тысячы гектараў. На падрыхтаванай зямлі сеялі збожжавыя культуры і рапак (рапс). Ураджаі з кожным годам павышаюцца. У 1979 годзе дзяржаве прадпрыемства прадало каля 3500 тон збожжа, 600 тон рапсу і 800 тон бульбы (у 1978 годзе сабрала і прадало каля 6400 тон збожжа, 1200 тон рапсу). Аднак асноўным напрамкам дзейнасці ПГР у будучыні будзе авечкагадоўля. У Крушынянах будзе пабудавана авечкаферма на 3200 месц. Зараз будуецца збожжавы магазін разам з сушыльняй на 3600 тон збожжа. Заканчэнне пабудовы яго прадбачваецца ў ліпені 1980 года.

Нядаўна рабочы калектыў ПГР атрымаў 96 жылых кватэр у блоках і прадшколле на 40 месц. Заканчваецца мадэрнізацыя сталовай.

Неабходна адзначыць, што крынкаўскі ПГР заняў трэцяе месца ў краіне ў спаборніцтве працы. **(яц)**

## ФАЛЬКЛОР

# ВЯСНЯНКА




Каліна-калiначка рано расцвіла,
  ў злую пору маманька міне радзіла,
  ў злую пору маманька міне радзіла.
І ні навучыла, і ні навяла —
  ў чужую сторану замуж аддала,
  ў чужую сторану замуж аддала.
У чужую сторану да й староначку,
  да ліхога свёкера дай свякровачкі,
  да ліхога свёкера дай свякровачкі.
Тры лет я ў маманькі свае ні была,
  а на чварты рочок пташкай залячу,
  а на чварты рочок пташкай залячу.
Залячу я, сяду ў вішнёвум саду,
  беленькімі плечкамі ў яблыньку ўпру,
  беленькімі плечкамі ў яблыньку ўпру.
Беленькімі плечкамі ў яблыньку ўпру,
  дробненькімі слёзкамі ўвесь садок залью,
  дробненькімі слёзкамі ўвесь садок залью.
Чы ні ўчуе маманька рана ўстаючы
  дай свае нівестанькі пабуджаючы,
  дай свае нівестанькі пабуджаючы.
— Устаньце вы, нівестанькі, устаньце вы мае,
  устаньце вы, паслухайце, што ў нашум садзе,
  устаньце вы, паслухайце, што ў нашум садзе.
Што гэто за пташачка, за саловушка,
  чы ні мая дочанька з чужой стараны,
  чы ні мая дочанька з чужой стараны.
Калі ты дачуленька — просім це да нас,
  а калі зязюленька — ляці ў цёмны ляс,
  а калі зязюленька — ляці ў цёмны ляс.

Ад Яніны Радуха, 1923 г. нараджэння, вёска Бянёўцы гм. Новы Двор, запісаў 18 ліпеня 1979 г. Мікалай Гайдук. Мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

